Казакоў, Л. Ю. Праверка праў на зямлю як этап правядзення аграрнай рэформы сярэдзіны XVI ст. у Вялікім княстве Літоўскім / Л. Ю. Казакоў // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 254–258.

***Л. Ю. КАЗАКОЎ***

# ПРАВЕРКА ПРАЎ НА ЗЯМЛЮ ЯК ЭТАП ПРАВЯДЗЕННЯ АГРАРНАЙ РЭФОРМЫ СЯРЭДЗІНЫ XVI ст. У ВЯЛІКІМ КНЯСТВЕ ЛІТОЎСКІМ

Аграрная рэформа сярэдзіны XVI ст. была значнай падзеяй у гісторыі Беларусі. Адбылося ўкараненне новых форм гаспадарання, пабудаваных на выкарыстанні працы цяглых сялян. Рэформа праводзілася ў адпаведнасці з «Уставам на валокі», якая была выдадзена Жыгімонтам II Аўгустам 1 красавіка 1557 г. Аднак нельга сказаць, што рэформа абмяжоўвалася выключна перамерам зямлі на валокі і ўсталяваннем фальваркаў. Гэтыя падзеі склалі толькі аснову вялізнага комплексу эканамічных, тэхнічных і сацыяльных змен, якія засталіся ў гісторыі як валочная памера.

Шырокамаштабнай аграрнай рэформе папярэднічаў комплекс дзеянняў па яе падрыхтоўцы. Варта адзначыць, што большая частка шляхты ўспрыняла гэты працэс вельмі негатыўна. У асноўным гэта было звязана з працэдурай праверкі праў на зямлю, а таксама з абменам зямельных участкаў, якія закраналі інтарэсы сярэдняй і дробнай шляхты. Яе прадстаўнікі імкнуліся ўсяляк тармазіць працэсы правядзення аграрнай рэформы. Калі падчас эканамічных пераўтварэнняў каралевы Боны гэта было ў меншай ступені, то пры правядзенні валочнай памеры ў межах усёй дзяржавы працэс праявіўся досыць яскрава. Адной з асноўных праблем была праверка праў на зямлю. Практыка яе правядзення была спачатку апрабавана ва ўладаннях каралевы Боны, якія ўсярэдзіне XVI ст. фактычна сталі своеасаблівым палігонам для праверкі эфектыўнасці ўрадавых дзеянняў па рэарганізацыі сельскай гаспадаркі. Так, першая праверка праў на зямлю была праведзена яшчэ ў 1533 г. Бонай Сфорца ў сваіх уладаннях у Мсцібогаве, Майшакголе і Кобрынскім павеце. Выявілася, што пэўная частка землеўласнікаў не магла даць бясспрэчныя абгрунтаванні сваіх праў на валоданне зямлёю і праў на шляхецтва. Дзякуючы гэтаму Бона Сфорца атрымала магчымасць да пашырэння сваіх уладанняў за кошт зямель, якія знаходзіліся ў незаконным валоданні шляхтай [1, с. 20]. Гэта аказалася перспектыўным таму, што падчас правядзення валочнай памеры 1552—1555 гг. у Пінскім і Клецкім княствах Бона Сфорца актыўна выкарыс-



тоўвала працэдуру праверкі праў шляхты на зямлю з мэтай пашырэння сваіх уладанняў.

Адной з асноўных мэт правядзення валочнай памеры ў межах дзяржавы з'яўлялася аб'яднанне гаспадарскіх зямель у адзіны комплекс, цэнтрам якога з'яўляўся фальварак. Тым самым ліквідавалася шкодная ў гаспадарчым сэнсе цераспалосіца. У выніку праверкі праў шляхты на зямлю частка шляхты пазбаўлялася сваіх зямельных уладанняў. Тым самым дадаваліся землі да фальварка. Таксама калі шляхціц даказваў свае правы на валоданне зямлёю, але яго ўладанні знаходзіліся на тэрыторыі плануемай фальваркавай гаспадаркі, то праводзіўся абмен землямі. Гэта закранала матэрыяльныя інтарэсы шляхты. Зразумела, што мала хто з іх быў задаволены адбываючыміся працэсамі. Аднак, апроч матэрыяльнай незадаволенасці, шмат хто бачыў пагрозу ў праверцы праў на шляхецтва, якая праводзілася перад перамерам зямлі на валокі. Да таго часу інстытут вызначэння шляхецтва ўжо быў заканадаўча аформлены. Паводле сеймавай пастановы 1522 г. асоба, якая сцвярджала пра сваё шляхецтва, мусіла мець двух шляхціцаў-сведкаў, якія пад прысягай павінны былі пацвердзіць, што гэтая асоба ад прадзеда і дзеда аднаго з імі рода і брат па крыві. Пастанова дапускала і прысутнасць аднаго сведкі, але тады ў якасці другога выступала гэтая ж асоба, але пад прысягай. Калі ж і знайсці сведкаў было немагчыма, то для доказу свайго шляхецтва можна было абмежавацца і прадстаўленнем лістоў вялікіх князёў Вітаўта, Казіміра Ягелончыка, Аляксандра, Жыгімонта I Старога альбо каго-небудзь з прадстаўнікоў тагачасных паноў-рады, дзе было б сказана, што продкі канкрэтнага чалавека лічыліся баярамі. Гэтая працэдура ўжо шмат часу эфектыўна працавала і, здавалася б, не павінна была б выклікаць супрацьдзеяння шляхты пры правядзенні праверкі праў на зямлю. Але шляхта бачыла ў гэтым не толькі праверку законнасці ўладання зямлёю, але і непасрэдны наступ на сам інстытут шляхецтва. Таму што калі правы на шляхецтва знаходзіліся пад сумненнем і шляхціц не мог паказаць неабходныя дакументы альбо знайсці сведкаў, якія б катэгарычным чынам сцвярджалі яго шляхецтва, то ён мог страціць свой стан і пераўтварыцца ў простага падданага альбо баярына. Тэрмін «баярын» на той момант ужо не азначаў факт прыналежнасці да прывілеяванага саслоўя [2, с. 593]. Да таго ж у азначаны час пачалася барацьба паміж князем, урадам і магнатамі з аднаго боку і простай шляхтай з другога за палітычны ўплыў у дзяржаве. Арэнай гэтай барацьбы становяцца вялікія вальныя сеймы, якія амаль штогод склікаюцца Жыгімонтам II Аўгустам. Ужо на другім Віленскім сейме ў 1551 г.

шляхта выступае з патрабаваннямі, каб пры ажыццяўленні валочнай памеры шляхта «листов на именья и на земли перед мерьчими волочными не покладала», матывуючы гэта тым, што «иж для тых листов немало земель шляхетских у волоки господарьские померено, а отмены не даны» [3, с. 287]. Гэтымі патрабаваннямі шляхта фактычна патрабавала адмяніць саму працэдуру праверкі праў на зямлю. На трэцім Віленскім сейме ў 1554 г. ужо жамойцкая шляхта выступае з прэтэнзіямі ў дачыненні да пачатку правядзення праверкі праў на зямлю на тэрыторыі Жмудзі. Акрамя патрабаванняў адмены гэтай праверкі, пачынаюцца скаргі на дзеянні каралеўскіх адказных асоб, якія яе праводзілі. Сярод іх сустракаецца шмат фактаў хабарніцтва. Каб пацвердзіць правы на шляхецтва або правесці выгадны абмен зямлёю, шляхта была вымушана ўсяляк задобрываць мернічых. Падобныя скаргі і пратэсты адбываліся фактычна на кожным з наступных вальных соймаў: у 1559, 1563, 1569 гг. Часцей за ўсё ініцыятарам супрацьстаяння каралеўскім дзеянням у галіне сельскай гаспадаркі выступала менавіта жамойцкая шляхта, якая на той момант была самай апазіцыйнай у дачыненні да Жыгімонта II Аўгуста.

Дзеянні шляхты перыядычна вымушалі Жыгімонта II Аўгуста ісці на пэўныя ўступкі ў галіне рэгламентацыі праў на валоданне маёнткамі. Адной з такіх уступак стала ўхвала Берасцейскага сойму 1 ліпеня 1566 г. Тэкст яе гучаў так: «Артыкулы поправы статутовое, которые за волею вѣдомостью Короля его милости Великого Князства Литовского Жикгимонта Августа, съ потребы правъ земскихъ панства его Королевское милости Великого Князства Литовского, за зволеньемъ пановъ радъ ихъ милости того панства духовных и свѣцкихъ, также князей и пановъ врядниковъ его королевское милости, пановъ пословъ земскихъ и всехъ становъ сейму належачихъ, на сойме валномъ Берестейскомъ поправленые. Которые ихъ милость панове рада и вси станы на сойме въ Берестью поправивши, черезъ старосту Жомоитского, маршалка земского Великого Князство Литовского, державцы Плотельского и Тельшовского, пана Яна Ходкевича ку его Королевское милости до Люблина прислати были рачили. Где Господаръ его милость тыхъ артыкуловъ огледавши и ихъ уфаливши, моцъю сойму Берестейского до статуту правъ новыхъ вписати росказать рачилъ, умоцняючи то, ажъ хотя бы въ статуте што были тымъ артыкуломъ нижей описанымъ было противнего, тогды вжо тые артыкулы первей въ статуте о такихъ справахъ выписаные, ни которое моцы вжадного права мети и держаны быти не мають, але тыми артыкулами на сойме Берестейскомъ уставленными



вси станы Великого Князства Литовского, и вси земли тому панству належачие, радити и справоватися мають» [4, с. 21]. Гэтым дакументам берасцейскі сойм ухваліў змены ў Статуце 1566 г. і пастанавіў унесці ў яго новыя артыкулы. У гэтых артыкулах вялізная ўвага надавалася пашырэнню праў землеўласнікаў на зямлю. Так, уладальнікі маёнткаў, атрыманых па спадчынным праве альбо выслужаных іншым спосабам, мелі права свабодна распараджацца сваёй зямлёю: прадаваць, закладваць, здаваць у арэнду і г. д. У Статуце 1529 г. гэтыя правы былі абмежаваны. Пашырэнне праў землеўласніка азначала змену старога права феадальнай уласнасці на маёнткі на новае права буржуазнай неабмежаванай уласнасці, што ў сваю чаргу стала пачаткам пераходу ад феадалізму да капіталізму. Зямля перастае быць непарушным маёратам і становіцца таварам, які можа свабодна ўдзельнічаць у таварна-грашовых адносінах.

Аднак падобныя ўступкі былі хутчэй выключэннем. Нягледзячы на незадавальненне шляхты, Жыгімонт II Аўгуст не збіраўся згортваць правядзенне аграрнай рэформы. Асноўныя патрабаванні шляхты засталіся незадаволенымі, што, зразумела, далёка не спрыяла павялічэнню папулярнасці Жыгімонта II Аўгуста як кіраўніка дзяржавы. У выніку валочная памера закранула інтарэсы шматлікіх слаёў шляхты. Устаноўленую адмену атрымоўвалі толькі тыя, чые правы на зямлю былі неаспрэчнымі. Астатнія былі вымушаны хадайнічаць перад гаспадаром аб прызначэнні гэтай адмены. У выніку распачаўся працэс каласальнага пераразмеркавання зямельных рэсурсаў па ўсім Вялікім княстве Літоўскім. Яскравымі прыкладамі дакументальнага сведчання аб адмене зямельных участкаў можна лічыць даныя аб пашні дворнай, якія сустракаюцца ў інвентарах каралеўскіх і шляхецкіх маёнткаў. Варта ўзгадаць, напрыклад, інвентар маёнтка Раклішкі Лідскага павета 1585 г., які належаў Івану Глебавічу. Вось як вырашылася зямельнае пытанне паміж Янам Глебавічам і Стасем Пілевічам паводле звестак гэтага інвентару: «…Адмена грунтоў і сенажацяў асочніка сяла Рацюнжаў Стася Пілевіча і пашня з крайняга поля з усходняга боку ад ракі Сольчыцы моргаў 3/2/0, то бок: сенажацяў прутоў 20, а ворыўнага грунту подлага пескаватага моргаў 2/12. За тое яму дадзена адмена ва ўказаных грунтах і сенажацях яго мосці пана. На першым месцы за ракою Сольчыца, урочышчам у Шынтоках, грунту сенажатнага ад Бароўскага і Пілевіча, земян павету Лідскага, набытага заменай і купным, дадзена моргаў 1/7/0. А на другім месцы ў тым жа месцы збоку на ўсход ад ракі Сольчыца у Таргелішках грунту подлага, такога ж самага як і той, які ўзяў моргаў 2…» [5, с. 322]. Гэта



толькі адзін невялікі прыклад з абмену зямлі. Звычайна пры перамеры зямлі на валокі і ўсталяванні пашні дворнай закраналіся землі фактычна ўсіх суседніх землеўласнікаў. Зыходзячы з гэтага, перамер зямлі на

валокі праводзілі высокакваліфікаваныя спецыялісты, якія атрымалі назву каралеўскіх мернічых. У прыватнасці, у маёнтку Раклішкі памер праводзілі служачы пана Яна Глебавіча Станіслаў Ярмушэўскі разам з каралеўскім мернічым Хведарам Рэпіхоўскім. Адмена была дадзеная грунтам аднолькавым па якасці — подлым. Але здараліся выпадкі, калі немажліва было правесці адмену грунтам аднолькавым па якасці. Падобныя варыянты прадугледжваліся Уставай на валокі. Паводле гэтага дакумента грунты падзяляліся па якасці на чатыры катэгорыі: добры, сярэдні, подлы і вельмі подлы. За валоку добрага грунту падчас адмены давалі паўтары валокі сярэдняга грунту, за валоку сярэдняга — дзве валокі подлага і г. д. Апроч пытання пераразмеркавання зямельных рэсурсаў пры перамеры зямлі на валокі нечакана з’яўляліся няўлічаныя дагэтуль аспекты, што прымушала ўрад шукаць адказы на ўсё новыя і новыя пытанні. Напрыклад, цікавай з’яўляецца наступная праблема. Некаторыя шляхціцы атрымоўвалі ў якасці адмены валокі, якія знаходзіліся на тэрыторыі гарадоў і мястэчак. Пры гэтым атрымоўвалася, што яны станавіліся падсудныя магдэбургскаму суду і былі абавязаныя несці мяшчанскія павіннасці і плаціць мяшчанскія падаткі. Зразумела, што шляхта хадайнічала аб тым, каб і найдалей падпарадкоўвацца шляхецкаму суду і плаціць адпаведныя падаткі.

Такім чынам, праверка праў на зямлю выявіла шматлікія праблемы ва ўзаемаадносінах шляхты і велікакняжацкай улады. Аднак дзякуючы ёй папоўніўся комплекс дзяржаўных зямель, што дазволіла больш інтэнсіўна праводзіць пашырэнне фальваркавых гаспадарак.

**ЛІТАРАТУРА**

1. *Пичета, В. И.* Белоруссия и Литва XV—XVI вв. / В. И. Пичета. М., 1961.
2. *Гудавичюс, Э.* История Литвы с древнейших времен до 1569 г. / Э. Гудавичюс. М., 2005.
3. *Пичета, В. И.* Аграрная реформа Сигизмунда августа в Литовско-Русском государстве / В. И. Пичета. М., 1958.
4. Статут Вялікага княства Літоўскага 1566 года / пад рэд. Т. І. Доўнар. Мінск, 2003.
5. Акты, издаваемые Виленскою археографическою комиссиею. Т. 14. Инвентари имений XVI столетия. Вильня, 1887.